Праваабарончы
Веснік
верасень 2014
Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# УЛАДЫ ХОЧУЦЬ ЗАКРЫЦЬ МАГІЛЁЎСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ЦЭНТР

## Праваабаронцам не ўдалося знайсці юрыдычны адрас для рэгістрацыі арганізацыі

3-га верасня галоўнае ўпраўленне юстыцыі Магілёўскага аблвыканкаму падало ў Магілёўскі абласны суд пазоў аб прыпыненні дзейнасці грамадскага аб'яднання «Магілёўскі праваабарончы цэнтр».

У пазове, падпісаным выконваючым абавязкі загадчыка галоўнага ўпраўлення юстыцыі Сталяровым, указваецца, што ГА «МПЦ», ажыццяўляючы дзейнасць, «доўгі час груба парушала заканадаўства (не прадастаўляла ў галоўнае ўпраўленне юстыцыі Магілёўскага аблвыканкаму ўва ўстаноўлены тэрмін дакументы, неабходныя для дзяржаўнай рэгістрацыі змены юрыдычнага адрасу (месца знаходжання кіруючага органа), ўнесенай у статут)».

У 2013 і 2014 гадах ГА «МПЦ» атрымала два папярэджанні за гэтыя парушэнні, якія не былі абскарджаны ў судзе. Тыя дакументы, што МПЦ падавала на рэгістрацыю ўва ўпраўленне юстыцыі, былі прызнаныя неадпавядаючымі патрабаванням заканадаўства.

У пазове ўпраўленне юстыцыі просіць суд прыпыніць дзейнасць ГА «Магілёўскі праваабарончы цэнтр» на тры месяцы, забараніць МПЦ ажыццяўляць любую дзейнасць, акрамя



дзеянняў па выпраўленні парушэнняў, карыстацца банкаўскімі рахункамі.

Апошняе памяшканне, знойдзенае праваабаронцамі для арганізацыі, было прадастаўленае ААТ "Пропоша-ТС". Але ўпраўленне юстыцыі паведаміла, што дамова паміж МПЦ і ААТ "Пропоша-ТС" заключана з парушэннем: пазначаная плошча памяшкання, якое арганізацыя прадаставіла па дамове бясплатнага карыстання, недакладная, а арэндатар у адпаведнасці з існуючым заканадаўствам не мог без згоды ўласніка здаць памяшканне ў бязвыплатнае карыстанне, а мог здаваць яго толькі ў суарэнду. Дырэктар ААТ "Пропоша-ТС" адмовіўся ўносіць неабходныя праўкі ў дамову бясплатнага карыстання: пасля таго, як ён прадаставіў памяшканне пад юрыдычны адрас Магілёўскаму праваабарончаму цэнтру, на яго пачаўся ціск з боку мясцовай улады. Да яго прыйшоў чалавек, які пачаў пагражаць праверкамі з боку разнастайных дзяржаўных служб, сярод якіх Міністэрства надзвычайных сітуацый, міліцыя, падатковая інспекцыя і санітарна-эпідэміялагічная служба, калі не будзе разарваная дамова з Магілёўскім праваабарончым цэнтрам.

Дырэктар МПЦ Уладзімір Краўчанка лічыць, што гэта ціск з боку мясцовых чыноўнікаў, якія зусім не зацікаўлены ў існаванні адзінай афіцыйна зарэгістраванай праваабарончай арганізацыі ў Магілёве.

# У ЖУРНАЛІСТА ЗАБРАЛІ ЧАТЫРЫ КАМПУТАРЫ

## Аляксандр Буракоў пісаў для замежных СМІ

16 верасня сем міліцыянтаў пад кіраўніцтваў маёра міліцыі Уладзіміра Пугачова ўварваліся ў кватэру незалежнага журналіста Алеся Буракова (старэйшага).

Міліцыянты схітравалі і падставілі пад дзверы нейкую жанчыну, якая прадставілася супрацоўніцай ЖЭУ. Як толькі Алесь Буракоў адчыніў дзверы, яго ледзь не збілі з ног міліцыянты.

Яны правялі агляд кватэры. Усе свае дзеянні яны фіксавалі на відэакамеру. Сказалі, што Буракоў падазраецца ў парушэнні закона “Аб СМІ”, бо нібыта супрацоўнічае з нямецкім радыё “Deutsche Welle” і не мае на тое адпаведнай акрэдытацыі. У якасці доказаў міліцыянты спасылаліся на публікацыі, якія былі размешчаны на сайце радыё і былі падпісаныя Алесем Бураковым.



*Алесь Буракоў*

Пасля таго, як кватэра журналіста была агледжана, міліцыянты паехалі рабіць агляд кватэры бацькоў Алеся, дзе таксама забралі кампутары. У выніку ў журналіста забралі два стацыянарных кампутары і два ноўтбукі на экспертызу. Абяцалі вярнуць кампутары праз 1-2 тыдні, як толькі праверка кампутараў будзе скончана.

Алесь Буракоў адзначае, што ў яго на руках толькі пратакол аб аглядзе месца адміністрацыйнага правапарушэння, які яму выдалі міліцыянты. Пратакола аб канфіскацыі кампутараў у яго на руках няма.

Для далейшых разбіральніцтваў незалежны журналіст быў выкліканы ў Ленінскі РАУС.

Трэба адзначыць, што нядаўна Буракову ўжо выносілі афіцыйнае папярэджанне за працу на замежнае СМІ без акрэдытацыі. Тады гаворка ішла пра тэлеканал «Белсат».

# ПАЛІТВЯЗНЯ ЯЎГЕНА ВАСЬКОВІЧА ЗБІРАЮЦЦА ПЕРАВЕСЦІ З ТУРМЫ Ў КАЛОНІЮ

Як паведаміла Рушанія Васьковіч, маці палітвязня Яўгена Васьковіча, яго збіраюцца перавесці з турмы ў калонію. Гэта мусіць адбыцца ў кастрычніку.

«Яго на 3 гады суд адправіў у турму, вось ў кастрычніку 3 гады скончваюцца і, як яму сказалі, вярнуць ў тую ж калонію, адкуль забралі. У 15-ую ў Магілёве. А як будзе далей, хто яго ведае? Калі ня будзе мець парушэнняў і зноў ня стане злосным парушальнікам, то пакінуць там. А калі будуць парушэнні, то могуць зноў накіраваць у турму. Як там будзе, прадказаць не магу.»

Паводле Рушаніі Васьковіч, яе сын не скардзіўся на здароўе



і ўмовы ўтрымання. Раней ў інтэрнэце былі звесткі, што Яўген Васьковіч некалькі разоў трапляў у карцэр і ў выніку страціў шмат вагі.

Рушанія Васьковіч спадзяецца, што пасля перавода ў калонію ёй дазволяць сустрэцца з сынам:

«Хацелася б, каб пасля карантыну яму там у хуткім часе далі спатканне з намі. Мусіць быць кароткатэрміновае і доўгатэрміновае. А ўвогуле Жэня трымаецца як заўсёды, аптымістычна, перадае ўсім прывітанні. Кажа, што бывае заняты і не мае часу шмат пісаць. Нават я аднойчы чакала ад яго ліста два месяцы».

Яўген Васьковіч асуджаны на 7 гадоў зняволеньня за хуліганскія дзеянні адносна будынку КДБ ў Бабруйску. Сваёй віны Васьковіч не прызнае і адмаўляецца пісаць прашэнне аб памілаванні. Трымаюць палітвязня ў магілёўскай крытай турме.

# БАБРУЙСКАЯ ЖУРНАЛСІТКА АШТРАФАВАНАЯ НА 32 БАЗАВЫЯ ВЕЛІЧЫНІ

## Марына Малчанава працавала на тэлеканал «Белсат»

25 верасня Бабруйская суддзя Наталля Чарапуха агучыла рашэнне па справе незалежнай журналісткі Марыны Малчанавай. Яе абвінавацілі ў супрацоўніцтве з замежным СМІ без акрэдытацыі.




*Марына Малчанава*

Судовае пасяджэнне пачалося з апытання бабруйскага міліцыянта Аляксея Ганчарова. Ён выступіў у якасці сведкі, бо ўдзельнічаў у «аглядзе месца здзяйснення адміністрацыйнага правапарушэння». То бок, прысутнічаў у кабінеце падпалкоўніка Сяргея Рудзько падчас прагляду сайта тэлеканала «Белсат».

Аляксей Ганчароў паведаміў, што матэрыял на сайце быў зроблены ў форме дыялога, яны яго скапіравалі і ўклалі ў пратакол. Суддзя пацікавілася, з якой мэтай праводзіўся агляд.

- Мяне папрасілі папрысутнічаць, для чаго – я не ўдакладняў, - патлумачыў міліцыянт.

Марына Малчанава зноў падала хадатайніцтва, на гэты раз пісьмовае, датычнае матэрыялаў карэліцкага суда над журналістам Алесем Залеўскім, і суддзя зноў яго адхіліла. Адвакатка папрасіла далучыць гэтае хадатайніцтва да матэрыялаў справы, Наталля Чарапуха пагадзілася.

Марына Малчанава зноў дала тлумачэнні наконт размовы з гераіняй рэпартажу пра дабрачынны рух. Суддзя зачытала запыт Сяргея Рудзько ў Міністэрства замежных спраў, і адказ адтуль. Таксама яна зачытала запыт гэтага міліцыянта ў краснапольскую міліцыю з просьбай апытаць гераіню рэпартажа.

Быў зачытаны і пратакол размовы ўчастковага Уладзіміра Басянкова з гераіняй рэпартажа. Гэты міліцыянт мусіў прысутнічаць на судовым пасяджэнні ў якасці сведкі, але не прыехаў. Ён патлумачыў, што на гэты дзень у яго дзяржуства на працы. З рапарта Басянкова вынікае, што ён паказаў гераіні рэпартажу тры фотаздымкі жанчын, сярод якіх было пашпартнае фота Марыны Малчанавай, і па ім яна апазнала журналістку.

Адвакатка Марыны Малчанавай патлумачыла суду, што яе падабаронная не можа быць пакараная па артыкуле, парушэнне якога ставіцца ёй у віну. Яна адзначыла, што Малчанава - фізічная асоба, а артыкул 22.9 КаАП прадугледжвае пакаранне юрыдычных асоб. Таксама яна патлумачыла, у чым розніца паміж гатовай прадукцыяй, якая з'яўляецца ў СМІ, і зборам матэрыялаў, нагадала пра 34 артыкул Канстытуцыі, які гарантуе свабодны збор і распаўсюд інфармацыі любым грамадзянінам Беларусі.

З паказанняў гераіні рэпартажа вынікае, што Марына Малчанава не рабіла запісаў ад рукі ці на дыктафон, таму немагчыма даказаць, што гэта яна зрабіла тэкставую версію для сайта «Белсату», адзначыла адвакатка. Яна пацікавілася, чаму міліцыянты не шукалі відэааператара, чаму не звярнуліся па тлумачэнні ў рэакцыю «Белсата». «Адміністрацыйны працэс вядзецца не ў поўным аб'ёме», - адзначыла адвакатка і назвала гэтую справу абсурднай.

Пасля гадзіннага перапынку суддзя Наталля Чарапуха агучыла пастанову: прызнаць віну Малчанавай у парушэнні артыкула 22.9 у другой частцы даказанай, і пакараць яе штрафам у 32 базавыя велічыні (4 800 000 рублёў).

Марына Малчанава выказала жаданне падаваць касацыйную скаргу ў абласны суд.

# У МАГІЛЁВЕ ПРАЙШЛА СУСТРЭЧА З АЛЕСЕМ БЯЛЯЦКІМ

19 верасня ў Магілёве прайшла сустрэча са старшынём Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесем Бяляцкім.




Гэта першы візіт былога палітвязня ў Магілёў пасля яго вызвалення з бабруйскай калоніі ў чэрвені гэтага году. Некалькі дзясяткаў магілёўцаў, што прыйшлі на сустрэчу з Алесем Бяляцкім, віталі былога палітвязня воплескамі.

Падчас сустрэчы праваабаронца прэзентаваў сваю кнігу «Іртутнае срэбра жыцьця», якая складаецца з эсэ, напісаных ім у зняволенні. У эсе, якія Алесь Бяляцкі дасылаў лістамі з бабруйскай калоніі, ён апісвае дзейнасць праваабаронцаў да і пасля беларускіх падзеяў 2010 году, апавядае пра ўдзел міжнародных праваабарончых місіях. Укладальніца кнігі Алена Лапцёнак, якая таксама ўдзельнічала ў сустрэчы, распавяла прысутным пра гісторыю яе стварэння, а сам аўтар - пра асаблівасці творчай дзейнасці ў турэмных варунках.

Падчас сустрэчы былі абмеркаваныя падзеі падчас і пасля апошніх прэзідэнцкіх выбараў, сучасны стан з правамі чалавека ў Беларусі, праблема палітвязняў. Алесь Бяляцкі і Алена Лапцёнак адказалі на шматлікія пытанні прысутных, а пры канцы сустрэчы аўтар кнігі падпісаў яе ўсім жадаючым - магілёўцы, што прыйшлі на сустрэчу, атрымалі «Іртутнае срэбра жыцьця» ў падарунак.

Падчас зняволення Алеся Бяляцкага выйшлі дзве ягоныя кнігі - «Іртутнае срэбра жыцьця» і літаратуразнаўчы зборнік «Асьвечаныя Беларушчынай». Рыхтуецца да друку ягоны публіцыстычны зборнік «Халоднае крыло Радзімы». Алесь Бяляцкі - аўтар яшчэ двух кніг: літаратуразнаўчай манаграфіі «Літаратура і нацыя» і кнігі нарысаў і эсэ «Прабежкі па беразе Жэнэўскага возера», што выйшлі ў 1991-м і 2006-м гг.

# У МАГІЛЁВЕ ПРАВЯЛІ СЕМІНАР ПА ПРАВАВЫМ РЭГУЛЯВАННІ ЖЫЛЛЁВЫХ СТАСУНКАЎ



13 верасня магілёўскае аддзяленне ПЦ «Вясна» арганізавала ў Магілёве семінар, прысвечаны прававаму рэгуляванню жыллёвых стасункаў.

Спецыялісты з ГА «Сумеснае домаўладальніцтва» і МГА «Акадэмія жыллёва-камунальнай гаспадаркі» разгледзелі пытанні прававога рэгулявання жыллёвых стасункаў згодна апошнім зменам у заканадаўстве, асноўныя палажэнні новай канцэпцыі дзяржаўнай жыллёвай палітыкі, асаблівасці дзяржаўнай падтрымкі грамадзянаў пры будаўніцтве і набыцці жылых памяшканняў, пытанні кіравання і тэхнічнага абслугоўвання жыллёвага фонду, праблемы і перспектывы арганізацыі і работы таварыстваў уласнікаў жылля.

Падчас мерапрыемства лектары адказалі на шматлікія пытанні слухачоў. У семінары ўзялі ўдзел два дзясяткі чалавек; ён прайшоў у грамадскім цэнтры «Кола».

Праваабаронцы маюць намер правесці яшчэ некалькі падобных імпрэзаў.

*У нумары выкарыстаныя матэрыялы ПЦ «Вясна», Радыё Свабода*

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.